 

Ў нумары: У Беластоцкім падполлі · Рак можна вылечыць · Ці так павінна быць?

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 33 (288) | ГОД VII | 19 ЖНІЎНЯ 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР



АЎГУСТАЎ.
Над возерам Студзенічным.
Фота МІКАЛАЙ ТАРАСЕВІЧ

# БЯСПРЫКЛАДНЫ ПОДЗВІГ САВЕЦКІХ ВУЧОНЫХ І КАСМАНАЎТАЎ

11 жніўня 1962 года на арбіту спадарожніка Зямлі ў Савецкім Саюзе выведзен касмічны карабель — «Усход — 3», пілатуемы Андрыянам Нікалаевым. Услед за ім на другі дзень выведзен новы спадарожнік — «Усход—4», пілатуемы Паўлам Паповічам. Караблі выведзены на блізкія арбіты.

Новыя касмічныя палёты невыказна ўсхвалявалі ўвесь свет. Людзі ўсёй Зямлі ад душы апладзіруюць савецкім вучоным і касманаўтам.

Праграма навуковых даследванняў намнога шырэйшая, чым у двух папярэдніх палётах.

Мэтай вывядзення на блізкія арбіты двух касмічных караблёў з'яўляецца атрыманне даследчых дадзеных аб магчымасці ўстанаўлення непасрэднай сувязі паміж двума караблямі, каардынацыя дзеяння лётчыкаў-касманаўтаў, праверка ўплыву аднолькавых умоў касмічнага палёта на людскі арганізм.

У момант падпісання нумару да друку караблі, пераадолеўшы маршрут звыш двух мільёнаў кіламетраў, працягваюць бяспрыкладнае падарожжа.

Чалавецтва ў хуткім тэмпе набліжаецца да такіх дзён, калі касмічныя палёты людзей вакол Зямлі стануць звычайнымі.

ВЕРА ЛЕЎЧУК

## Хлеб надзённы Орлі

Орлю расславіла не толькі па Беласточчыне Жоська - знахарка. І цяпер, калі Жоська ўжо не жыве, мне нічога іншага не выпадае аб ёй сказаць, апрача таго, што яна была «патрыёткай» Орлі. Дзякуючы ёй людзі пхаліся ў Орлю, як мухі на мухалоўку. Ашуканчая мухалоўка... Неразумныя мухі...

Так як Орлю людзі ведаюць або чулі пра такую, то думаю, зацікавяцца, што і як цяпер у Орлі дзеецца. Якім надзённым хлебам яна жыве.

У Орлі пасаджана многа і ўсюды маладых дрэў. Адчуваецца вялікая накіраванасць на азеляненне пасёлка і аколіцы. І робіцца гэта грамадскім чынам. З грамадскага фонду на плошчы пры ГРН заложаны гадавальнік. 1500 штук чырвонага дуба вырастае тут, каб быць перанесенымі, між іншым, у парк на рынку.

Вялікі кавалак дарогі (3 км) ад станцыі Арлянка да пасёлка абсаджаны дрэўцамі. Побач дарогі — равы, паросшыя буйнай травой. Некалі, ведаю, многа арлянцаў пaслі па гэтых равах кароў. Цяпер не пасуць. Хоць трава і прыдалася б (у Орлі не хапае добрай пашы), аднак у імя будучай зялёнай дарогі, «ценю пад ліпамі», нельга пасвіць, нельга нішчыць дрэў. Ці ўсе хвалююцца такімі думкамі, ці ўсім зразумела такое становішча?

Мне расказвалі пра адно здарэнне з нейкай бабай. Конь не хацеў яе слухацца. Яна ў злосці з воза — ды да дрэўца... Зламала лёгка і хутка, і ўжо са злосцю да каня. А тут міліцыянер (на шчасце). І лупнуў 1500 зл. (Так расказвалі).

Часцей бы добры і ласкавы лёс пасылаў на бяздушных бракан'ераў караючую руку міліцыянера. Бо для многіх добрае слова — гэта толькі «звінячы цымбал».

Грамадскім чынам пачалася ў Орлі будова рамізы. Памеры 22x11. Самі пажарнікі збудавалі чават фундамент, бо нейкі прыватны спецыяліст хацеў за гэтую прыемнасць 10 тысяч злотых. На прыкладзе арлянскіх пажарнікаў яшчэ раз можам ганарыцца працавітасцю, ініцыятыўнасцю і гаспадарнасцю пажарных каманд.

Спулдзельня «Вітаміна» ў Бельску зацікавілася Орляй як аб'ектам для сваёй дзейнасці. Праўдападобна, у Орлі на 10 гектарах будзе збудавана цяпліца. Ужо ранняй вясной пад шклом будуць даспяваць... Ну, розныя рознасці, смачныя рэчы. Для саміх арлянцаў усміхаецца такая перспектыва. Бо і падзарабіць будзе дзе, і свежая гародніна на месцы.

У Орлі мае быць таксама і стадыён. Аб ім, праўда, даўно я ўжо чула. Але цяпер веру крыху, што ўсё ж - такі ён будзе, бо дакументацыя (без гэтага, на жаль, ані руш) ужо часткова апрацавана. У далейшым мае быць басейн і... другі парк, тут за фабрыкай бліжэй да вёскі Міклашы. Зразумела, усё будзе будавацца, у кожным выпадку, пачнецца, грамадскім чынам. І мабыць, сапраўды гэта будзе, бо спорт у Орлі любяць. Існуе моцны гурток ЛьЗС.

Зімой Рыгор Лясун, пішучы аб Орлі, аб культурным зруху ў гэтай мясцовасці, ставіў пытанне, ці арлянскай моладзі хопіць сіл устаяць, ці не ўляжацца зноў усё спакойна да сну. Паведамляю Лясуна, што не хапіла сіл. У Орлі на культурна - асветным полі святая цішыня. Амбіцыя заснула. Гурток БГКТ, хоць і фігуруе ў паперах таварыства, але і толькі.

У чым справа, дзе шукаць прычын такога ходу рэчаў? Пытаю аб гэтым кіраўніка святліцы Іллю Кубаеўскага. Найперш успамінае, як тады, (калі быў у Орлі Лясун), было добра і бадзёра, а цяпер нічога, бо старшыня гуртка выйшла замуж і яшчэ нехта выехаў. Але ці гэта істотная прычына? Разважаем. Урэшце Ілля Кубаеўскі гаворыць: «Бо ў нас кажуць так: калі мы запішамся ў ЛьЗС, то дастанем мяч, сетку, будзем іграць. А што будзем мець, належачы да БГКТ?»

Шакуючыя словы, праўда? Але ці не вартыя ўвагі? Пэўна, ЛьЗС і БГКТ — зусім розныя арганізацыі, але ж нельга ў другой палове XX стагоддзя вымагаць, каб людзі і асабліва моладзь безупынна

(Працяг на стар. 4)

НАШЫ ДАЮЦЬ



 

СЛАЎНЫЯ ЛЮДЗІ ПАДЛЯШША

# Пётр Чаркоўскі (1808—1898)

Пётр Чаркоўскі з'яўляецца выдатным польскім педагогам. Нарадзіўся ён у 1808 годзе ля Драгічына. Пачатковую і сярэднюю адукацыю атрымаў у школах Падляшша — у Драгічыне і ў Беластоку. Вучыўся ён таксама ў Віленскім універсітэце, дзе зацікавіўся педагогікай.

П. Чаркоўскі з 1830 года па 1839 г. працаваў у якасці прыватнага настаўніка на Падляшшы, Літве і Беларусі. У 1839 годзе ён пераязджае ў Варшаву, дзе працуе па 1862 год. У г-ты перыяд ён напісаў і надрукаваў многа сваіх прац на разнастайныя тэмы. Яго цікавілі праблемы педагогікі, гісторыі, геаграфіі, філалогіі і этнаграфіі.

Вось найбольш вядомыя яго працы:

1. „Krótki zbiór geografii dla uczącej się młodzieży", Warszawa, 1850, szereg wydań, w r. 1892 czternaste.
2. Krótki wykład geografii powszechnej", ostatnie wydanie w Warszawie, 1880.
3. „Dzieje w Polsce, Litwie i na Rusi, z poglądem na wpływ Europy od r. 862 do 1825", Warszawa, 9 wydań, 1859—1865.
4. „Mównictwo", Warszawa, 1875.
5. „Rzecz o spółgłosce „i" na zasadzie mównictwa", Warszawa, 1859.

У 1862 годзе Пётр Чаркоўскі пераехаў у Сандомеж, дзе быў настаўнікам. Памёр у 1898 годзе.

**мгр Васіль Белаказовіч**

Бібліяграфія і крыніцы.

1. L. Sowiński, „Rys dziejów literatury polskiej... podług notat. Aleks. Zdanowicza", t. IV, Wilno, 1877, str. 803, t. V, Wilno, 1878, str. 231.

2. „Wielka Encyklopedia Powszechna Ilustrowana", t. XIV, str. 648—9, Warszawa, 1895.

## У Беластоцкім падполлі

# ЧЛЕН ПАРТЫІ


Сымон Кузьмін

Летам 1926 года сакратар беластоцкага Акруговага Камітэта Беларускай сялянска - рабочай грамады Васіль Казлоўскі пазнаёміў Сымона Кузьміна з яўрэйскім рабочым Гольдбергам, сакратаром ячэйкі КПЗБ у электрычным млыне пры вуліцы Сянкевіча 75. Такім чынам уступіў у рады партыі. Праз месяц быў пераведзены ў склад партыйнай ячэйкі пры вуліцы Крашэўскага, да якой належалі слёсары Алёша Салавей і Пятро Дзямід.

У час чаргов~ сустрэчы з Гольдбергам на плошчы перад царквою, што знаходзілася непадалёку млына, Сымон атрымаў першае сур'ёзнае партыйнае заданне: уступіць у члены «Грамады» і разгарнуць актыўную дзейнасць.

Неўзабаве быў арганізаваны ў Беластоку гарадскі гурток грамадаўцаў. Кузьміна выбралі ў склад праўлення з функцыяй скарбніка.

У адну з гарачых летніх нядзель неспадзявана многа народу сабралася ля сабораай царквы пры Ліповай вуліцы. Пайшлі чуткі, што прыехаў беларускі пасол Валошын (родам з Юраўлян у Сакольскім павеце).

Натоўп жанчын і мужчын рухнуў у напрамку пад'езду ад Сасновай ву-

(Працяг на стар 5)

## Фальклор Беласточчыны

# ТРЫСЦІНКА І КАВАЛЬ

(казка)

Даўным-даўно гэта было. Жыў - быў у адной вёсцы бедны чалавек. Штодзень хадзіў ён на балота. Рэзаў там лазіну ды ракіту і плёў дома кошыкі, сеўні і палукошкі. Прадаваў свае вырабы на торгу і з гэтага жыў. Жыў ён бедна: ледзь канец з канцом звязваў, часцей сухі хлеб жаваў, а закраса рэдка ў яго гаршчок трапляла.

Жыў - быў у той жа вёсцы і бедны каваль. Хоць і бедна ён жыў, але залатыя рукі меў. На што ні гляне — мігам тое зробіць ды яшчэ прыгажэйшае. Што ні задумае — тое зараз жа выканае, на сваім кавадле выкуе. Аднак карысці з гэтага вялікай не меў. Толькі таго зарабляў, што на кавалак хлеба, а аб чым іншым ды лепшым і мовы быць не магло.

Жылі вось так сабе бедныя селянін і каваль, з квасу на лебяду перабіваючыся, але сябравалі яны моцна. Адзін другому ў бядзе пасаблялі. Жылі душа ў душу.

Пайшоў аднойчы бедны селянін на балота па ракіту і знайшоў у трасціне маленькае дзіця, дзяўчынку. Пасінела беднае ад холаду і з плачу аж заходзілася. Зліта ваўся селянін над дзяцінаю, узяў яе ды прынёс у сваю хату. Стаў яе гадаваць-даглядаць і назваў Трысцінкаю.

Мінаў год за годам. Падрасла Трысцінка і стала свайму прыёмнаму бацьку есці варыць ды памагаць кошыкі плясці. Прыходзіў да селяніна і каваль пагутарыць і на Трысцінку падзівіцца, як яна ў хаце спраўляецца. А Трысцінка штогод дык прыгажэйшай становіцца. Нябач як і паннаю стала.

І пакахаў яе шчыра каваль.

Па-улі аб незвычайнай красе Трысцінкі паны і падпанкі і ў сваты да яе ехаць пачалі.

Прыехаў адзін пан у карэце, шасцю коньмі запрэжанай. Глянуў на Трысцінку і зумеўся, на прыгажосць яе гледзячы.

— Выходзь, — кажа, — за мяне замуж. Нічога рабіць не будзеш, у карэце залачонай ездзіць будзеш.

Падумала Трысцінка ды кажа яму:

— Хачу пабачыць, ці панская любоў шчырая. Дастань мне цудоўную чашу, што за сямю лясамі пільнуе людаед. Калі чашу прынясеш, тады і я паверу, што любоў твая панская шчырая. Тады і замуж за цябе выйду.

Зажурыўся пан і выйшаў з хаты. Стаў ля парога і задумаўся над тым, што рабіць мае з пажаданнем прыгожай Трысцінкі.

Аж чуе: каваль у кузні молатам па жалезе дзвэнкае.

— Зайду да каваля, — думае пан, — можа ён нешта прыдумае.

Заходзіць у кузню ды і кажа — так і так. Па чашу цудоўную мая нявеста выпраўляе мяне за сем лясоў драмучых.

Усміхнуўся каваль і гаворыць пану:

— Нашто ехаць за сем лясоў дрымучых. Я табе чашу выкую лепшую яшчэ і прыгажэйшую ад тае, што ў людаеда.

Уцешыўся пан. Горы грошай кавалю абяцаў. Каваль жа сказаў прыехаць пану за тры дні. А сам пачаў чашу каваць.

Мінула два дні. Не вытрымаў пан, едзе да каваля глянуць на яго работу.

— Ну як, — кажа, — чаша куецца?

— А ўжо гатовая, — адказвае той, — толькі вушкі дарабіць трэба.

Глянуў пан на чашу і вочы ў яго заіскрыліся. Не бачыў ніколі ён такой прыгожай чашы. Схапіў пасудзіну ды кажа кавалю:

— Нічога, яна і без вушкаў прыгожая!

Ды мігам да хаты Трысцінкі пабег, а кавалю і заплаціць забыўся.

Дзівавалася Трысцінка, на цудоўную чашу гледзячы, і згоду на шлюб дала. Пакаціў пан у свой палац да шлюбу рыхтавацца. А каваль тым часам зрабіў вушкі да чашы ды прынёс Трысцінцы і кажа:

— Пакажы, Трысцінка, панскі падарунак. Я ў ім вушкі яшчэ не прымацаваў.

Тут то і даведалася Трысцінка аб ашуканстве пана.

Калі прыехаў пан са сваімі вясельнікамі, яна і прыняла іх, і пачаставала, але за пана замуж не пайшла.

Праз нейкі час прыязджае другі паніч у сваты да Трысцінкі. Ад галавы да ног золатам абсыпаць абяцае. У шчырым каханні клянецца. Просіць — моліць, каб за яго замуж пайшла.

Падумала Трысцінка ды кажа:

— Хачу пабачыць, ці панская любоў верная. Прывязі ты мне залатую галінку, што расце на высокім дубе за сямю высокімі гарамі і пільнуе яе арол з дванаццацю галавамі. Калі дастанеш мне яе, дык тваёю жонкаю буду.

Затужыў паніч вельмі. Выйшаў з хаты і задумаўся. Аж чуе: каваль у кузні мяхом дзьме. Падыйшоў пан да кузьні, паглядзеў, як каваль працуе, ды аб прычыне свайго суму яму расказаў.

— Не трэба, паночку, ехаць за сем гор высокіх, — кажа каваль. — Я табе галінку выкую яшчэ прыгажэйшую ад тае, што арол дванаццацігаловы пільнуе. Калі хочаш, за тры дні гатовая будзе.

Узрадаваўся паніч непамерна і абяцаў кавалю вялікую плату, а сам у палац свой на кані паскакаў.

Не прайшло і трох дзён, прыехаў паніч да каваля на работу глянуць.

Уваходзіць у кузню, а галінка ўжо гатовая, толькі аднаго лісточка на ёй не хапае. Глянуў паніч на галінку — вочы ў яго разбегліся. Ні-

(Працяг на стар. 4)

— Божа мой, якім чынам і ў якім выглядзе! — радасна сказаў Андрэ Рэнар, працягваючы Генрыху абедзве рукі.

— Для таго, каб паціснуць мае рукі, іх спярша трэба развязаць! — сказаў, смеючыся, Генрых.

— Цьфу, дурань! — вылаяў сябе Андрэ Рэнар, і, дастаўшы з кішэні сцызорык, перарэзаў вяроўку, якою былі звязаны рукі палоннага. Але прывітацца старыя знаёмыя не маглі: рукі Генрыха так занямелі і набухлі, што адразу бяссільна павіслі. У запясцях выступіла кроў.

— Сястру! — крыкнуў Рэнар і, узяўшы Генрыха за плечы, моцна страсянуў.

— Дык вось каго, выяўляецца, нашы схапілі ўчора!

Увайшла сястра.

— Гольдрынг! — ускліюнула яна. — Божа, я вас адразу нават не пазнала! Гэта, месье Рэнар, той афіцэр, які мяне выкраў з гестапа, я вам расказвала пра яго.

— І дрэнна расказалі, інакш я б адразу здагадаўся.

— Як, хіба вы таксама сустракаліся?

Генрых працягла глянуў на Андрэ Рэнара.

— Не. Але мне расказваў пра месье Гольдрынга адзін мой знаёмы. якому ён памог... Але што ж вы стаіце, Людвіна? Рабіце перавязку

Генрых схаваў рукі за спіну.



— Я вас вельмі прашу, месье камандзір, спярша выслухаць мяне. Перавязку зробім потым.

— Тады пакіньце нас удвух, Людвіна! І пра тое, каго вы тут бачылі, нікому ні слова!

Генрых расказаў Рэнару пра захады, якія распрацаваў штаб дывізіі супроць макі.

— Дык вось, Андрэ, затрымаўшы мяне, вы пазбавіліся саюзніка ў штабе дывізіі і сапсавалі ўсе мае іншыя планы.

— Цяпер я здагадваюся, якія. Тады трэба інсцэнізаваць вашы ўцёкі. Я паклічу зараз начальніка нашага штаба, ён майстар на ўсялякія трукі.

Праз некалькі хвілін на парозе пакоя з'явілася ўжо знаёмая Генрыху постаць макі ў нямецкім мундзіры.

— Дык вось што, сябра, мы злавілі не таго, каго трэба, і зараз павінны выправіць сваю памылку, але так, каб пра гэта ведалі толькі ты і я. Хоць спачатку пазнаёмся — гэта той афіцэр, які прыязджаў да мяне у Ла-Травельса.

Шырока ўсміхнуўшыся, Мельнікаў моцна пацiснуў руку Генрыха. Той скрывіўся.

— Балюча? А вока не баліць? Не думаў я, што гэта вы!

— Дык гэты сіняк я дастаў ад вас?

— Ад мяне! — Мельнікаў вінавата сціх, глянуўшы на свой кулак.

Вытлумачыўшы свой план інсцэнізацыі ўцёкаў,



Андрэ Рэнар пытальна глянуў на свайго начальніка штаба.

— Адзіны выхад! Вось толькі, ці не пакажацца падазроным камандванню дывізіі і гестапа, што з усіх затрыманых вярнуўся адзін Гольдрынг? Мо', для кампаніі выпусцім шафёра і дзяўчыну?

— Берціну Граўзамель? — аж падскочыў Генрых. — А вы ведаеце, з якой мэтай яе паслалі ў Францыю?

Амаль гадзіну прасядзелі Андрэ Рэнар, Пётр Мельнікаў і Генрых Гольдрынг, абмяркоўваючы план наступнай ўцечкі палонных.

Калі Генрыха зноў прывялі ў хлеў, ён убачыў толькі Пфайфера і шафёра.

— А дзе ж фройляйн Граўзамель?

— На допыце, — адказаў шафёр.

Пфайфер сядзеў, апусціўшы галаву. Відавочна, допыт не аставіў у прапагандыста найменшай надзеі на больш - менш шчаслівы канец.

— Гер Пфайфер, я заклікаю вас да мужнасці. Ніколі не трэба траціць надзеі, нават тады, калі рукі ў цябе звязаны і цябе чакае заўтра раніцай суд макі.

— Суд? Які суд? — устрасянуўся Пфайфер.

— А хіба вам не гаварылі, што заўтра раніцай усіх нас будуць судзіць партызанскім судом?

(Працяг за тыдзень)

# Трыбуна чытачоў

## Пяруны білі, а пажарнікі спалі

У канцы ліпеня над усходняй часткай Беласточчыны праходзіла страшэнная навальніца.

У час яе на Беласточчыне ўзнікла 9 пажараў. Між іншым пярун ударыў у клуню Антона Гарбачэўскага з вёскі Кітурыкі Беластоцкага павета. Агонь хутка ахапіў усю клуню. На жаль, да гашэння пажару не прыехала ніводная супрацьпажарная каманда. А яны ж тут існуюць. Адна, напрыклад, у Ялоўцы, адлеглай ад вёскі Кітурыкі ўсяго толькі 3 кіламетры, другая — ў вёсцы Луплянка, таксама 3 кіламетры.

Ці ж ніхто з гэтых каманд не прыкмеціў зарыва пажару ў Кітурыках? Цяжка ўявіць гэта. Была ж ноч. А ноччу зарыва вельмі далёка відаць. Да таго яшчэ пры такой ляскатні маланак проста нельга заснуць нармальнаму чалавеку. А мо' члены супрацьпажарных каманд у Луплянцы і Ялоўцы былі п'яныя? Нехта за гэтую нядбайнасць і брак пільнасці павінен адказваць.

(вб)

## Дапамажыце, гаспадары Бельшчыны!

Гарачы нядзельны дзень. Жыхары Беластока, іншых гарадоў і вёсак шукаюць зацішнага месца адпачынку найчасцей над вадою. Адны едуць у Аўгустоў, іншыя накіроўваюцца ў паркі, сады, а тыя, што маюць матацыклы ці іншы сродак транспарту, едуць на раку Супрасль або Нарву. У кожнага ёсць сваё месца адпачынку.

Менавіта аб адным такім месцы над ракою Нарваю між плёскаўскім мастом і вёскай Войшкі трэба абавязкова ўспамянуць. Прыязджае сюды штораз больш адпачываючых з гарадоў і з наблізкіх вёсак. Нікога дзіўнага! Адпачынак — справа вельмі важная. Тут вельмі прыемная рака. Для тых, хто хоча паспрабаваць сваіх сіл, ёсць месцы глыбокія, нават небяспечныя, а неглыбокія месцы займаюць жанчыны і дзеці. Прыгажосць русла ракі дапаўняе шырокая даліна, узгоркі і лес. А паспрабуйце адведаць тут які - небудзь чарговы фестын! Тысячы людзей!

Бяда толькі ў тым, што доступ да ракі вядзе праз прыватны лес, выган, поле. Карыстацца імі сяляне забараняюць. Адны гоняць з выгану, другія з лесу. Пытаюся, чаму не просяць, напрыклад, замены грунтаў, калі усім вядома, што і ў Рыбалах і ў Войшках ёсць шмат лепшай «нікому не патрэбнай» зямлі. Пераконваючы адказ дала ўсхваляваная мясцовая жанчына: «Мы ўжо ўсюды пісалі і асабіста ездзілі ў Павятовую Раду ў Бельску і нічога не дабіліся. Асталося толькі цэлымі нядзелямі з вамі сварыцца. Вы пішыце!»

Пішам і просім: гаспадары Бельшчыны! Разгледзьце справу замены грунтаў і стварыце гэтым прыемнае месца адпачынку.

ую

## Прыгожая вёска

Прыгожа выглядае вёска Рэпіска, што ў Гайнаўскім павеце. Шырокая вуліца заўсёды замецена, прыгожыя хаты патанаюць у садах. Грушы, яблыні, слівы, вішні і чарэшні з'яўляюцца самай трапнай дэкарацыяй, тым больш, што прыносяць і матэрыяльную карысць. Прыгажосці вёскі дадаюць і штахеты, якімі абгароджана вёска паабапал вуліцы з канца ў канец.

**Васіль Сегень**
Рэпіска

## Юбілей сельгас-гуртка

Чэхі - Забалотныя — гэта малая вёска, якая ляжыць над ракою Нурэц. Зямля сялян раскінутая навокал вёскі, не надта ўраджайная. Але яе хапае, і сяляне жывуць не найгорш. Метады гаспадаравання старыя: вугор, азіміна і яравое збожжа. Трэба нешта змяніць — гаспадарыць па - новаму. Так думалі мы з Пятром Кулачэўскім.

Калі мы заехалі да павятовага саюза сельгасгурткоў у Бельску, нам сказалі: «Пачынайце, а мы вам паможам».

У нашай вёсцы, як і ў іншых, адзін на другога азіраецца. Людзі пачалі шушукаць, гаварыць, а на справе — нічога...

Аднак да нас далучылася некалькі сялян і мы пачалі арганізоўваць сельгасгурток. Але мы не бачылі ніколі сельгасгуртка і не ведалі яго праграмы. І вось аднойчы ў нядзелю прыехаў да нас аграном. На агульным сходзе прачытаў ён статут, вытлумачыў карысці, якія будуць мець гурткоўцы. і 15 жыхароў нашай вёскі адважылася. Падпісалі дэкларацыі. Паміж сялянамі пачаўся рух. Адны гаварылі, што гэтыя перадавікі загоняць усіх у кааператыўную краму, іншыя пераконвалі аб карысцях, якія дае сельгасгурток. Звыш трох тыдняў ішлі паміж сялянамі ажыўленыя спрэчкі, аж пачалася рэгістрацыя сельгасгуртка.

На наступным сходзе выбралі праўленне. Прайшло яшчэ некалькі дзён і прышло паведамленне, каб прымалі малатарню. Прывезлі малатарню і ўсе ахнулі: што ж гэта можа быць?! Праз некалькі дзён малацьба ішла поўнай парай. Сельгасгурток выконвае паслугі ў Шышылах, Малочках і ў сваёй вёсцы. На працу восені і зімы працуе без затрымкі і зарабляе на сваё конта 11905 злоты, з чаго чыстага даходу 4020 зл. За зробленыя грошы члены сельгасгуртка пастанавілі купіць сеялку. Так і зрабілі. Прышла вясна і на сеялку ўжо чакаюць кліенты. Іх не бракуе. Ідзе з рук у рукі. Сеюць цукровыя буракі, збожжа.

У далейшых планах стаіць купля апырсківача, а потым — трактара. Цяпер планаваць ужо лёгка і проста. А ўсяго ад аснавання сельгасгуртка мінае 21 жніўня 1962 года — толькі год.

**СЦЯПАН КАРБОЎСКІ**
**Сакратар сельгасгуртка**
**ў Чэхах Забалотных.**

## Аб жыцці і справах вёскі Прыбудкі

Вёска Прыбудкі, Гайнаўскі павет, налічвае 35 гаспадароў. За апошнія гады ў вёсцы наступілі значныя перамены. Жыхары Прыбудак ўлажылі ў вёсцы брук і нажвіравалі дарогу. З хат знікае салома і гонты. На іх месца прыходзіць чарапіца. У вёсцы шмат пабудавана новых гаспадарчых будынкаў. І далей вёска будуецца. У 1961 годзе тут пакончана з церазпалосіцай. Загінулі вузкія палоскі. Праведзена была камасацыя.

Хвалюючай справай вёскі з'яўляецца культурнае жыццё. У гэтай галіне, можна сказаць, вёска спіць мядзвежым сном. Зрух павінна зрабіць моладзь. Ёсць жа тут шмат таленавітых дзяўчат і хлапцоў. Трэба толькі згуртавацца і не чакаць, пакуль хто-небудзь з павета прыедзе і наладзіць культурнае жыццё. Трэба і тут праявіць уласную ініцыятыву, тады напэўна жыццё Прыбудак будзе цікавейшым і весялейшым.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## На дарогах патрабуецца культура

Як толькі мацней прыгрэе летняе сонца на шашы і дарогах амаль цэлыя суткі не сціхае гул машын, трактараў і матацыклаў. Іх колькасць расце з кожным месяцам.

На працягу аднаго года (ад 30.06.1961 года да 30.06.1962 года) у Беластоцкім ваяводстве прыбыло іх амаль 9 тыс. Зараз у аддзелах камунікацыі на Беласточчыне зарэгістравана больш пяцідзесяці з паловай тысяч адзінак механічнага транспарта. У гэтай матарызаванай сям'і першае месца займаюць матацыклы. Уладальнікамі іх з'яўляецца 38 тыс. жыхароў Беластоцкага ваяводства.

Пастаянны рост колькасці механічных сродкаў руху трэба лічыць як добрую і пажаданую праяву нашай рэчаіснасці. Яна наглядна сведчыць аб хуткім ўзросце матэрыяльнага ўзроўню быту грамадзян. Вядома, што матацыкл, а тым больш аўтамашына купляецца толькі пасля заспакаення больш скромных патрэб. Гэтае не можа не цешыць.

На жаль, аднак следам за хуткім прыбываннем новых адзінак механічнага экіпажа, бы чорная цень, неадлучна прыбывае колькасць няшчасных выпадкаў на дарогах, а нават яшчэ горш — колькасць няшчасных здарэнняў значна выпярэджвае прырост аўтамашын і матацыклаў. У першым паўгоддзі бягучага года на дарогах Беласточчыны колькасць адзінак механічнага экіпажа павялічылася на 20% у параўнанні да папярэдняга стану, а колькасць няшчасных выпадкаў у тым жа перыядзе павялічылася на каля 35%. 23 асобы забітыя, 178 цяжка параненых, знішчаных 159 машын. Затраты дасягаюць мільёнаў злотых.

Большасць шафёраў, на жаль, лёгкадумна закрывае вочы на вынікі гэтай статыстыкі; бо прычыны штогод паўтараюцца. Перш за ўсё — п'янства сярод шафёраў. На працягу паўгоддзя б. г. міліцыянеры затрымалі 211 п'яных шафёраў. Яны яшчэ не спавадавалі няшчасця, але каб не апека міліцыі, хто ведае, ці не мелі б на сваім сумленні чалавечага жыцця?

Неаднойчы прыходзілася назіраць такое: у вёсцы нейкае свята. Моладзь на матацыклах і веласіпедах з'язджаецца з далёкіх вёсак. Гарэлку пры такой нагодзе ніхто за каўнер не выліває. А потым на вуліцы, сярод натоўпу людзей, адбываецца язда наперагонкі.

Вось такім героям, аматарам хуткай язды, перш за ўсё адрасую гэтую журасную статыстыку. Можа яна ахалодзіць іхні запал да кавалерскай неадказнай язды, бо хуліганства ў спалучэнні з п'янствам — гэта асноўныя прычыны штораз часцейшых няшчасных здарэнняў на дарогах Беласточчыны.

**В. РУДЧЫК**

## БУДЗЕ НОВАЯ ШКОЛА

У ліпені гэтага года ў Луплянцы Старой пачалася пабудова новай прыгожай школы. Плануецца, што школа ўступіць у строй 1 верасня 1963 г.

Варта адзначыць, што ў пабудове новай школы ад самага пачатку актыўны ўдзел бяруць жыхары вёсак Луплянка Старая і Новая.

**Мікалай Лаўрашук**
Луплянка Старая



ПРАГРАМА
на 19 — 26.VIII.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 21—23. „Martwe dusze" (radz.), 24—26.

**Кляшчэлі**
„W obronie mojej miłości" (włoski), 21—23. „Miłość powraca wiosną" (radz.), 24—26.

**Навасады**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 25—26.

**Нараў**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 22—26.

**Нараўка**
„100 kilometrów" (włoski), 22—26.

**Чаромуха**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 21—23. „Herszt" (franc.), 24—26.

**Чыжы**
„Zuzanna i chłopcy" (polski), 22—26.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 22—26.

**Бранск**
„Uskrzydleni" (NRD), 21—23. „Żebro Adama" (USA), 24—26.

**Орля**
„Skok o świcie" (radz.), 22—26.

**Райск**
„Salwa o świcie" (radz.), 22—26.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Król strzelców" (czeski), 21—23. „Drzwi stoją otworem" (czeski), 24—26.

**Міхалова**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 21—23. „Długa noc 1943" (włoski), 24—26.

**Супрасль**
„Pragnienie" (rumuński), 21—23. „Jak się młody Noszt żenił" (węgierski), 24—26.

**Чорная Беластоцкая**
„Lunatyk" (franc.), 21—23. „Tu radio Gliwice" (NRD), 24—26.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„W. I. Lenin" (radz.), 21—23. „Długa noc 1943" (włoski), 24—26.

**Мілейчыцы**
„Z soboty na niedzielę" (angielski), 21—23. „Gorsza miłość" (węgierski), 24—26.

**Нурэц**
„Przeciwnicy" (węgierski), 21—23. „Mezalians" (węgierski), 24—26.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Człowiek z za biurka" (włoski), 21—23. „Pokój przychodzącemu na świat" (radz.), 24—26.

**Сухаволя**
„Czekajcie na listy" (radz.), 21—23. „Alba Regia" (jugosł.), 24—26.

**Шудзялава**
„Zaduszki" (polski), 22—26.

**Янаў**
„Katastrofa" (rumuński), 21—23. „Wyrok" (polski), 24—26.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„SOS Titanic" (angl.), 25—26.

**Новы Двор**
„Liga dżentelmenów" (angl.), 25—26.

**Ружаны Сток**
„Daleki ukochany" (radz.), 25—26.

У днях 19 — 26.VIII. у мясцовасці Гродзіск фільмы высвятляцца не будуць.

Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-9-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bltk F-3

